№ 122 (1935)

Серада, 7 ліпеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +15...+17, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +19..+21, сонечна, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +16..+18, сонечна, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +17...+19, сонечна, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +21...+23, сонечна, уначы — +10...+12, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +18...+20, сонечна, уначы — +10...+12, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Міжнародныя Шагалаўскія дні

Яны стартавалі ў Мінску і завершацца ў Полацку. У сталічным Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава "Марк Шагал і сцэна". 7 і 8 ліпеня Шагалаўскія дні пераедуць на радзіму мастака, у Віцебск. Тут у Музеі Марка Шагала пройдзе ўрачыстае адкрыццё XIV Міжнародных Шагалаўскіх дзён, у якім возьме ўдзел унучка майстра Мерэт Меер-Грабер.

У арт-цэнтры будуць выстаўлены экспанаты, атрыманыя за апошні час у дар віцебскім Музеем Марка Шагала. Гэта часопісы пачатку XX стагоддзя, прысвечаныя творчасці мастакоў-авангардыстаў, якія перадаў у музей яго даўні сябра Генрых Мандэль з Германіі, а таксама кніга "Марк Шагал і яго час: гісторыя ў дакументах".

У рамках XIV Міжнародных Шагалаўскіх дзён пройдуць таксама традыцыйныя Шагалаўскія чытанні, у якіх возьмуць удзел вучоныя з Беларусі, Расіі, Ізраіля, Францыі, Швейцарыі і ПАР. Завершацца Шагалаўскія дні 9 ліпеня ў Полацку. У гэты дзень у старажытным беларускім горадзе адкрыецца выстава "Марк Шагал і мастакі еўрапейскага авангарда".

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Міжпарламенцкі саюз і ПАСЕ заклікаюць улады Беларусі «правесці незалежнае і эфектыўнае расследаванне» спраў людзей, якія зніклі без вестак

Аб гэтым гаворыцца ў распаўсюджанай сумеснай заяве Камітэта па правах чалавека Міжпарламенцкага саюза і Камітэта па прававых пытаннях і правах чалавека ПАСЕ. У дакуменце ўзгадваецца, што гэтыя камітэты займаюцца справамі аб зніклых у Беларусі людзях на працягу некалькіх гадоў. У чэрвені 2003 года ПАСЕ прызначыла спецыяльнага дакладчыка па гэтых справах — Хрыстаса Пургурыдэса (Кіпр). Яго справаздача, абнародаваная ў студзені 2004 года, адзначаецца ў заяве, "выявіла не толькі сур'ёзныя недахопы ў расследаваннях, але і паказала, што на самым высокім дзяржаўным узроўні былі прадпрыняты крокі для ўтойвання праўдзівай падаплёкі знікненняў".

Абодва камітэты лічаць, што "сур'ёзныя недахопы ў расследаваннях гэтых спраў, а таксама факты, што ўказваюць на прыналежнасць да знікненняў высокапастаўленых чыноўнікаў, не могуць ігнаравацца беларускімі ўладамі". Міжнародныя арганізацыі заклікаюць урад Беларусі "прадпрыняць крокі, неабходныя для правядзення незалежнага і эфектыўнага расследавання".

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Каля 1000 коней — у Італію

Сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў "Кастрычнік-Гродна" — адна з нямногіх гаспадарак Беларусі, якая займаецца адкормам коней і продажам іх за мяжу. Гэтую эканамічную магчымасць заробку валюты цяперашні старшыня кааператыва Віктар Крамко выкарыстоўвае ўжо на працягу 20 гадоў. За гэты час у Італію былі адпраўлены каля 20 тысяч коней. За грошы, атрыманыя ад продажу (а кілаграм жывой вагі каштуе 1,05 еўра), СВК "Кастрычнік-Гродна" набыў усю імпартную сельскагаспадарчую тэхніку.

Сёлета ўжо прададзены 393 кані. Яны адкормліваюцца да 400—450 кілаграмаў, а потым італьянскім транспартам адпраўляюцца па адрасах італьянскіх фірм.

У Гродзенскай вобласці гадаваннем коней з наступнай іх рэалізацыяй займаюцца яшчэ аблдзяржплемпрадпрыемства, СВК "Шчучынаграпрадукт".

**Аляксандр ХІЛІМОН.**

## Залаты сайт

Афіцыйны сайт мінскага унітарнага прадпрыемства "Тэтраэдр" стаў пераможцам адкрытага Усерасійскага інтэрнет-конкурсу "Залаты сайт-2003" у намінацыі "Карпаратыўныя сайты прадпрыемстваў і арганізацый" у катэгорыі "Электратэхніка, электроніка і радыёэлектронная прамысловасць". Яго канкурэнтамі ў фінале конкурсу былі сайты маскоўскай кампаніі "BRIZ Industrial Communication" (вытворчасць прамысловых металаканструкцый, антэн, электронікі) і сайт "Метралогія і вымяральныя прыборы" (Чэлябінск), які прадстаўляе каталогі прадукцыі прыборабудаўнічых прадпрыемстваў, цэны, новую прадукцыю, даведнікі, інтэрнэт-магазін запчастак да прыбораў, каталог спасылак і г. д.

Асноўны кірунак дзейнасці УП "Тэтраэдр" — укараненне ноу-хау пры мадэрнізацыі і стварэнні новых узораў узбраення супрацьпаветранай абароны.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## «Цісен Круп» прэзентуе беларускіх мастакоў

Вялізная зала ў тысячу квадратных метраў у самым цэнтры Дзюсельдорфа, буйнога прамысловага горада Германіі, сталіцы федэральнай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, аддадзена з 16 чэрвеня па 8 ліпеня сямі беларускім мастакам. Выстава "Мастацкая палітра Беларусі", якая складаецца са 150 жывапісных і графічных работ — заўважнае мерапрыемства для горада, асабліва калі яго наладжвае ў сваіх офісных памяшканнях нямецкі прамысловы канцэрн "Цісен Круп". З боку Беларусі арганізатарамі выставы выступілі Пасольства Рэспублікі Беларусь у ФРГ пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў Беларусі, а таксама грамадскае аб'яднанне "Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва".

**Наталля КУКУШКІНА.**

## Курсы замежных валют

*Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў на 7 ліпеня наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

*1 долар ЗША — 2158 рублёў*
*1 еўра — 2652,51*
*1 расійскі рубель — 74,31*
*1 аўстралійскі долар — 1543,73*
*1 балгарскі леў — 1356,55*
*1 дацкая крона — 356,68*
*1 СДР — 3169,76*
*1 ісландская крона — 29,96*
*10 японскіх іен — 197,32*
*1 казахскі тэнге — 15,92*
*1 канадскі долар — 1631,70*
*1 кувейцкі дынар — 7320,22*
*1 кыргызскі сом — 50,56*
*1 латвійскі лат — 4010,78*
*1 літоўскі літ — 768,46*
*1 малдаўскі лей — 181,57*
*1 нарвежская крона — 312,82*
*1 польскі злоты — 585,57*
*1 сінгапурскі долар — 1258,09*
*10.000 турэцкіх лір — 15,02*
*1 украінская грыўна — 405,80*
*1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3956,26*
*1 чэшская крона — 83,44*
*1 шведская крона — 288,52*
*1 швейцарскі франк — 1744,97*
*1 эстонская крона — 169,99*

**ЧУЛІ?**

## З Расіі — 30 кілаграмаў, з Польшчы — пяць

### З пачатку ліпеня ўведзены новы парадак ўвозу-вывазу рэчаў праз мытную мяжу Беларусі

Прэс-служба Аляксандра Лукашэнкі паведаміла, што яго указам №259 зацверджана новая рэдакцыя Палажэння аб парадку перамяшчэння фізічнымі асобамі праз мытную мяжу Беларусі тавараў, не прызначаных для вытворчай ці іншай камерцыйнай дзейнасці. Ёю адзначаецца, што ў Палажэнні ўлічаны шматлікія пажаданні грамадзян аб павелічэнні норм бяспошліннага ўвозу прадуктаў харчавання з краін СНД. З 10 да 30 кілаграмаў павялічана норма бяспошліннага ўвозу прадуктаў харчавання з СНД. Такое паслабленне будзе дзейнічаць у перыяд з 1 чэрвеня па 31 кастрычніка. З дня ўступлення ў сілу Указа дазволена бяспошлінна ўвозіць у перыяд з 1 ліпеня па 31 снежня 300 кілаграмаў прадуктаў харчавання, вырашчаных на асабістых прысядзібных участках, якія належаць на правах уласнасці гэтым грамадзянам ці членам сем'яў і якія знаходзяцца на тэрыторыі краін СНД. Гэта, канешне, добра. Але ці многія беларусы маюць дачы ў Расіі і Украіне?

Разам з тым, пры ўвозе ў іншыя перыяды, а таксама з іншых краін дазваляецца ўвозіць толькі 5 кілаграмаў прадуктаў на аднаго чалавека.

Гэта ў многіх выклікае непаразуменне. Бо вядома, што вялікая колькасць нашых грамадзян ездзіць за прадуктамі і рэчамі ў суседнюю Польшчу. Там яны больш якасныя і танныя. Цяпер жа, напомнім, можна прывезці адтуль толькі 5 кілаграмаў прадуктаў. У такім разе паездкі за імі робяцца бессэнсоўнымі.

Афіцыйныя прапагандысты тлумачаць, што такі парадак дапаможа абараніць інтарэсы ўласных вытворцаў. Відаць, так. Але ж ён адначасова б'е па шматлікіх грамадзянах краіны. Дык што важней: амбіцыі ўласных вытворцаў ці дабрабыт людзей? Зразумела, што, калі б нашыя прадукты былі якаснымі ды таннымі, які сэнс быў бы ехаць за імі ў суседнюю краіну? Замест таго каб паляпшаць якасць прадукцыі айчынных вытворцаў ды рабіць іх больш таннымі, вырашылі перакласці цяжар праблем, што ўзніклі ад неразваротлівасці чыноўнікаў і вытворцаў, на плечы пакупнікоў, якія вымушаны будуць пераплачваць грошы за набыццё прадуктаў.

З трох літраў да аднаго зменшана норма бяспошліннага ўвозу спіртных напояў. Цяпер вы не зможаце прывезці з Крыма ці Малдовы некалькі бутэлек добрага мясцовага віна. Думаецца, і гэта абмежаванне залішняе.

Надта павялічаны пошліны на ўвоз аўтамабіляў, рэчаў, бытавой тэхнікі. Так, павялічана стаўка мытных пошлін і падаткаў пры ўвозе транспартных сродкаў: з 0,55 еўра да 2 еўра за 1 куб. см аб'ёму рухавіка для транспартных сродкаў, якія выпушчаны больш за 14 гадоў таму; з 0,55 еўра да 0,6 еўра за 1 куб.см. аб'ёму рухавіка для транспартных сродкаў, з моманту выпуску якіх прайшло менш як 3 гады. Так што набыццё патрыманых аўтамабіляў для многіх, відаць, стане не па кішэні. Скажам, за іншамарку "ўзростам" больш як 14 гадоў "растаможка" будзе па самым высокім тарыфе — 2 еўра за кубічны сантыметр аб'ёму рухавіка. Значыць, пры аб'ёме рухавіка 1600 мытня забярэ ў вас 3200 еўра. Грошы для беларуса вельмі вялікія.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

*Ольга ЗАВАДСКАЯ:*

## «Я люблю тебя, сынок!..»

*Сегодня, 7 июля, исполнилось четыре года, как похищен оператор ОРТ Дмитрий Завадский. В этот день его мать, Ольга Григорьевна Завадская, встанет в цепь неравнодушных людей с портретом сына. "Это единственная возможность еще раз напомнить о Диме", — говорит она.*

— Стараюсь, конечно, держаться, — говорит Ольга Григорьевна. — Я не люблю, чтобы меня жалели. И не терплю лжи в сочувствии. Я благодарна тем людям, которые понимают не на словах, а на деле, и сочувствуют молча.

**— Республиканская прокуратура вновь приостановила расследование дела о похищении Димы. Почему?**

— Как уведомил руководитель следственной группы Иван Бранчель, *"в связи с необнаружением безвестно исчезнувшего лица"*. Мы, родные похищенных, предлагали усилить группы, которые ведут следствие по нашим делам. В прокуратуре отказались, заявили, что у них достаточно сил.

Бранчель, когда было возобновлено расследование во второй раз, вызывал меня на допрос. Объяснил это тем, что у него появилось свободное время и несколько трупов, которые нужно опознать. Спрашивал то же, что и ранее другие следователи.

**— На Ваш взгляд, есть ли смысл дальнейшего хождения по инстанциям?**

— Мы исчерпали все возможности и везде получили отписки. Недаром же вопросы о похищенных в Беларуси рассматриваются сейчас в Европе. Судя по общению с представителем Комитета по юридическим вопросам и правам человека ПАСЕ Христосом Пургуридесом, он достаточно рьяно относится к этой проблеме. Хочется верить, что он добьется своего и будет продвигать наши дела в международных инстанциях, где нас услышат. Это единственная надежда, потому что другого пути просто нет.

На Россию я не надеюсь. Хотя она могла бы сделать многое. Дмитрий — сотрудник российской телекомпании, Игнатовичу предоставили российское гражданство. У России есть все основания заниматься этим делом, но не хотят. В игру вступает большая политика. И в России, и в Беларуси есть высокопоставленные лица, которые не заинтересованы в огласке дела.

Россияне голосовали и против резолюции ПАСЕ по Беларуси, в которой выдвинуты требования к белорусским властям расследовать дела о похищенных. Никто из российской делегации не проголосовал "за".

**— Суд по делу Димы закончился парадоксально. Виновные найдены и посажены, но ответа на вопрос "Где Завадский?" так и не получено. Как Вы считаете, похищение Вашего сына — дело рук осужденных Игнатовича и Малика?**

— Трудно оспаривать, что они не причастны. Но ведь были и другие, например, сейчас уже бывший сотрудник Службы безопасности президента Александр Леоненко, который следил за домом Димы в день его исчезновения. Следователи не захотели доказывать их причастность. А в адрес свидетелей поступили угрозы, и они отказались от своих показаний.

За Игнатовичем и Маликом стоят другие люди. В этом нет никаких сомнений.

**— Вы согласны с версией следствия, почему похитили Диму?**

— Причиной я также считаю интервью, в котором он рассказал о белорусских наемниках в Чечне. Но я не согласна с мнением следствия, что это личная месть Игнатовича, к тому времени уже бывшего "алмазовца", который, как утверждается, опознал себя в рассказе Димы.

Известно, что статья обсуждалась в "Алмазе". И думаю, что не только там. Потому что светиться в Чечне белорусским спецназовцам, конечно же, нельзя.

Дима был трижды в Чечне. Он до такой степени погружался в работу, что говорил потом: "Я, когда снимаю, не слышу взрывов, а люди рядом укрываются".

Он рассказывал про войну, делился впечатлениями. Говорил про трупы, про отношение к журналистам, в каких условиях они работали. Как камеру закрывают, не дают снимать. Как свои друг друга убивают.

Его рассказ в газете я прочла после исчезновения. Он говорил, что дал интервью, но я не предполагала, что оно такое острое и затрагивает интересы многих ведомств и лиц.

**— На Ваш взгляд, как быстро можно раскрыть дело Димы, если ему дать зеленый свет?**

— Сразу после суда у меня был частный разговор с сотрудниками КГБ. Мне сказали: "Если бы нам дали возможность, мы бы тут же раскрутили это дело".

При этой власти, к сожалению, это невозможно. Надо набраться терпения и бороться против нее для того, чтобы открылась правда.

Зине Гончар в связи с ее делом о похищении мужа откровенно заявили, что лет через 50 она обо всем узнает из архивов...

Такие преступления, и об этом говорят специалисты, раскрываются сразу. Но расследованиям не дают хода.

**— Вашему внуку уже 13 лет. Чем он похож на Диму?**

— Повадками. Обладает таким же чувством юмора, такой же вальяжный...

**— Про Диму говорите с ним?**

— Да, конечно. И он выражает свою позицию, стоя с портретом отца в цепи неравнодушных людей. К сожалению, мы мало общаемся. А Диме 28 августа исполнится 33 года. Возраст Христа. Свои 25 лет он отметил в застенках гродненской тюрьмы за скандальный репортаж с белорусско-литовской границы. А в 29 лет его похитили...

**— Между Вами и сыном осталось что-то недосказанное? Что бы Вы сказали ему сейчас?**

— Я люблю тебя, сынок...

**Наталья ВОЛОКИДО.**

**ЭКСПЕРТИЗА**

## Лидеры НАТО «мониторят» Беларусь периферийным зрением

**Андрей ФЕДОРОВ, политолог**

Встречи глав государств и правительств Североатлантического альянса никогда не страдали от недостатка внимания. Однако прошедший в Стамбуле очередной саммит НАТО привлек к себе особенно большой интерес. Дело в том, что он проходил в условиях достаточно жесткого противостояния безусловного лидера альянса — Соединенных Штатов — и некоторых ведущих европейских держав, в первую очередь Франции и Германии, по вопросу присутствия НАТО в Ираке.

Можно сказать, что после событий 1966 года, когда тогдашний французский президент де Голль заявил о выходе его страны из военной организации НАТО, Альянс сталкивается с самыми серьезными внутренними проблемами в своей истории. И это несмотря на торжественный марш по Европе, где почти все государства либо уже являются членами Альянса, либо выражают самое горячее желание поскорее примкнуть к нему.

Тем не менее, можно полагать, что нынешние противоречия, как и прежние, будут рано или поздно преодолены, поскольку у стран-участниц в целом значительно больше общих целей и ценностей, нежели разногласий.

В любом случае нас гораздо больше волнует, как будут выстраиваться отношения НАТО и Республики Беларусь. Естественно, иные комментаторы не прочь позлорадствовать по поводу конфронтации внутри альянса. Впрочем, злорадствуют не слишком активно, так как — при явном отсутствии у белорусского руководства симпатий к НАТО — из Минска в Стамбул для участия в заседании Совета Евроатлантического партнерства (СЕАП) была направлена достаточно представительная делегация во главе с государственным секретарем Совета безопасности Геннадием Невыгласом.

Как водится, за исключением России все остальные государства были представлены в Стамбуле своими лидерами — на то он и саммит. Но у нас с заседаниями СЕАП на высшем уровне сложилась иная традиция.

Они проводятся в рамках саммитов НАТО, начиная с Мадридской встречи в 1997 году. Тогда мы были против предстоявшего приглашения к вступлению Венгрии, Польши и Чехии — и делегацию возглавил Виктор Шейман, в ту пору тоже секретарь Совбеза. В 1999 году в Вашингтон вообще никто не поехал вследствие возмущения, вызванного военной акцией Альянса в Сербии.

Правда, в 2002 году в Праге чуть было не случился прорыв. Тогда, как известно, Александр Лукашенко выразил желание лично пообщаться с лидерами НАТО. Увы, случился конфликт с КНГ ОБСЕ, и чешские власти не выдали визы. Гневную речь на саммите пришлось произносить Сергею Мартынову, нынешнему главе внешнеполитического ведомства, а тогда — послу в Бельгии и представителю при НАТО.

Сейчас у официального Минска тоже были основания для недовольства: Североатлантический блок в очередной раз расширился, причем наша граница с ним удлинилась при этом практически в два раза. Данное обстоятельство уже было неоднократно отмечено в выступлениях белорусского лидера, разумеется, в негативном контексте. Так что на сей раз как бы косвенно одобрять своим присутствием такие недружественные действия белорусский лидер, похоже, и не собирался. Тем более что и ближайший союзник, несмотря на свои не всегда понятные заигрывания с этой структурой, поступил точно так же.

Ну а глава делегации, как и положено, выступил на форуме с изложением официальной белорусской позиции. В очередной раз была подчеркнута готовность *"разделять ответственность за обеспечение международной безопасности посредством конкретных действий"*. В частности, посредством участия в миротворческих операциях, что допускает теперь новое законодательство и для чего в ближайшее время будет подготовлен соответствующий воинский контингент.

Говорилось также о совместном обеспечении безопасности общеевропейских стратегических объектов энергосистемы, борьбе с нелегальной миграцией и контрабандой оружия. В целом прозвучало достаточно прагматичное выступление, не содержавшее, в отличие от пражского, никаких политических претензий.

Судя по всему, соответствующим образом оно и было воспринято. Во всяком случае, в принятой на саммите декларации наша страна не упоминается. Очевидно, что Альянс считает для себя существенно более важными совершенно иные проблемы, чем борьба за демократические преобразования в одном небольшом европейском государстве. В связи с этим можно сделать вывод, что периодически высказываемые белорусским руководством опасения по поводу возможной агрессии выглядят не вполне основательными.

Это отнюдь не означает, однако, что политики, индифферентной по отношению к Беларуси, непременно будет придерживаться каждая из входящих в НАТО стран. Присутствие на саммите представителей белорусской оппозиции и их встречи на самом высоком уровне призваны продемонстрировать официальному Минску: ничто не забыто!

*("Белорусские новости".)*

**КРЫМІНАЛ**

## Не ўратаваў злачынцаў пісталет

Было каля апоўначы, калі ў магазін №22 па вуліцы Сацыялістычнай на ўсходняй ускраіне Слуцка зайшлі двое мужчын. Адзін, з пісталетам у руцэ, пералез за прылавак, схапіў прадаўшчыцу за валасы і, пагражаючы прыстрэліць, загадаў аддаць выручку. Яна склала 1,6 мільёна рублёў. Яго "калега" ў гэты час "блакіраваў" другую прадаўшчыцу.

Супрацоўнікі Слуцкага крымінальнага вышуку выйшлі на след рабаўнікоў у Крупскім раёне — туды ў адну з вёсак да сваёй жонкі з'ехаў адзін са злачынцаў, 31-гадовы нідзе не працуючы мужчына. Яго напарнік, 22-гадовы беспрацоўны, аказаўся родным братам жонкі старэйшага гадамі рабаўніка. Абодвух брали ноччу супрацоўнікі крымінальнага вышуку Уладзімір Курчыч, Андрэй Мятла і Вячаслаў Зінкевіч.

**Алесь ВОЛАТ.**

*г. Слуцк.*

**СКАНДАЛ**

## Парфеновича хотят уйти из НОКа

***Накануне заседания Национального олимпийского комитета под руководством А.Лукашенко, которое должно состояться 8—9 июля, трехкратному олимпийскому чемпиону Владимиру Парфеновичу предложили выйти из членов НОКа "по собственному желанию".***

"Утром 6 июля меня пригласил к себе на разговор заместитель председателя Палаты представителей **Владимир Коноплев**, — рассказывает Владимир Владимирович. — Он предложил мне написать заявление о выходе из Национального олимпийского комитета "по собственному желанию". Я ответил, что в добровольно-принудительном порядке никаких заявлений писать не буду. Тогда Коноплев попросил, чтобы я встретился с министром спорта и туризма Беларуси **Юрием Сиваковым.**

Когда я пришел к министру, у него в приемной уже находился **Геннадий Алексеенко**, которого, по некоторой информации, в ближайшее время должны назначить помощником президента по спорту. Геннадий Павлович тоже настоятельно порекомендовал мне уйти из НОКа. Затем мы вдвоем зашли к министру. Юрий Леонидович тоже довольно категорично и жестко сказал, что я просто обязан написать заявление, пригрозив тем, что у меня были *"проблемы в Олимпийском фонде"*. Министр имел в виду выделение квартиры моему заместителю по фонду **Андрею Корякину,** которое состоялось несколько лет назад. Проблема заключалась в следующем: бюро Олимпийского комитета дало разрешение на выделение квартиры, затем правление Олимпийского фонда рассмотрело заявление Корякина, и она была ему выделена. Надо отметить, что Олимпийский фонд безвозмездно передал Олимпийскому комитету 10 квартир, одну из которых мы и выделили нуждающемуся в улучшении жилья Корякину. Сегодня меня обвиняют в том, что я поступил неправильно. Хотя все согласования по данному вопросу были проведены совершенно законно. Я никогда не воровал, не ворую и воровать не буду. А если бы вопрос с квартирой действительно был решен незаконно, я бы уже давно сидел...

После того как я твердо ответил Сивакову, что заявление о выходе из НОКа писать не буду и никакие угрозы на меня не подействуют, мы расстались.

До конца Олимпийских игр я могу спать спокойно, потому что никто даже пальцем меня не посмеет тронуть, так как последствия этого скандала для Беларуси могут быть необратимыми.

Сиваков и Алексеенко предлагали мне куда-нибудь уехать на время проведения Олимпийского собрания. А я, между прочим, ради того, чтобы там присутствовать, отказался даже от поездки в Ирландию по линии ОБСЕ!

Я прекрасно понимаю, что и **Коноплев**, и **Алексеенко**, и **Сиваков** выполняют ТОЛЬКО команды. Свое собственное мнение они высказывают лишь за пределами рабочих кабинетов. Поэтому я их не осуждаю: как говорил **Артур Шопенгауэр**, человек слаб..."

Владимир Парфенович не исключает, что после состоявшихся официальных встреч его вообще могут не пустить на заседание НОКа.

*"В этом случае я буду намерен обратиться с официальным письмом в Международный олимпийский комитет, а накануне Олимпиады лишние скандалы, как я понимаю, никому не нужны..."* — говорит Владимир Парфенович.

## Канцэрт І.Карнелюка прайшоў за зачыненымі дзвярыма

У Баранавічах была склікана экстранная прэс-канферэнцыя, дзе абмяркоўвалася выступленне вядомага расійскага спевака Ігара Карнелюка, якое прайшло напярэдадні за зачыненымі дзвярыма Гарадскога дома культуры (ГДК) замест канцэрта на цэнтральнай плошчы горада, як планавалася раней.

Канцэрт спевака быў арганізаваны ў рамках святкавання Дня Рэспублікі і 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Імя І.Карнелюка прыцягнула на плошчу вялікую колькасць людзей, якія прыйшлі з вялізнымі букетамі кветак і на працягу прыкладна паўгадзіны цярпліва чакалі пачатку канцэрта. Адсутнасць артыста выклікала незадавальненне гараджан, і яны рушылі ў бок ГДК. Там таксама таўпіліся жыхары горада, што жадалі трапіць на канцэрт, у тым ліку ветэраны з медалямі. Але іх стрымлівалі міліцыянеры.

Як патлумачыла на прэс-канферэнцыі загадчыца аддзела культуры гарвыканкама Вольга Фурса, на канцэрт трапілі тыя, хто прыйшоў першым. Калі зала была запоўнена, дзверы зачынілі. Такое тлумачэнне не задаволіла гараджан. Яны працягваюць звяртацца ў мясцовыя СМІ з просьбай разабрацца ў сітуацыі.

**Галіна ЗАГАДСКАЯ.**

